ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 77(5259)
Чацвер,
12 ліпеня
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 51 руб.*

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Добра вучацца ў тых, каго любяць

Здаецца, Назым Хікмет сказаў, што шчасце — гэта калі раніцай хочацца бегчы на працу, а вечарам вяртацца дадому. Як усё проста... Але не заўсёды бяжыш раніцай на працу, не заўсёды поўны энтузіязму, творчасці і натхнення. Часам гаворыш сабе: "Больш не магу. Стамілася". Бывае і так... Але звініць званок, бярэш журнал, уваходзіш у клас, бачыш трыццаць пар дзіцячых вачэй, якія ўважліва глядзяць на цябе, усміхаешся і разумееш, што нягледзячы ні на што і насуперак усяму для цябе гэта не праца ў агульнапрынятым разуменні, гэта твае крэда — урокі даўжынёй у жыццё.

Урок — не проста час у раскладзе. Гэта час узаемін з тымі, хто абавязкова павінен стаць лепшым, разумнейшым, больш гуманным за нас. Але стануць яны такімі, толькі паверыўшы ў нас і палюбіўшы нас. Шмат разоў думала пра ўмовы, на якіх засноўваецца ўся праца педагога. Іх, напэўна, не так ужо і мала.

Першае — любоў да свайго прадмета.

Другое — любоў да дзяцей. А мы, педагогі, любім сваіх вучняў, якімі б няўседлівымі, няўдзячнымі яны ні былі.

У грузінскай мове ёсць слова "жрыамулі" — шчабятанне птушак і дзяцей, нешта светлае, жыватворнае. Самая чароўная музыка на свеце! І калі настаўнік скардзіцца, што ён стамляецца ад дзіцячага гоману, — такому чалавеку трэба ратавацца ад працы з дзецьмі, а галоўнае — трэба неадкладна ратаваць дзяцей ад яго. Лічу, што гэта выдатны тэст на прафпрыдатнасць.

Трэцяе — любоў да справы. І мы любім сваю справу, бо яна жывая, плённая, хоць і бясконца цяжкая...

Яшчэ ў дваццатыя гады педагог Шацкі звярнуў увагу на так званы "сон" школьніка. Дзіця з адкрытымі вачамі, якое "адсутнічае" на ўроку. Сёння нашы класы запоўнены такімі дзецьмі. Для каго ж мы тады стараемся ля дошкі? Для інспектара, метадыста? Дзеці не вінаватыя, іх сон — абарона ад колькаснай нагрузкі і якаснай шэрасці. Што рабіць? Скараціць аб'ём інфармацыі? Не атрымаецца. Трэба шукаць формулу аптымальнай перадачы і ўспрымання гэтай інфармацыі. Трэба даць настаўніку поўную свабоду: у планаванні матэрыялу, выбары тэм, вызначэнні колькасці гадзін, спосабаў, метадаў навучання, — бо ён, хто стаіць ля дошкі, лепш за іншых ведае, як вучыць і чаму вучыць. А даўшы гэтую свабоду, не крыўдзіць недаверам, праверкамі. Большасць настаўнікаў не мае патрэбы ў праверках, паколькі самі больш за ўсіх інспектараў заклапочаны якасцю сваёй працы. Якасць для іх — не букет адзнак, а вучань, які з задавальненнем ідзе да яго на ўрок.

Часта гавораць: галоўнае — вучы, выхаванне — прыйдзе! Але вось бяда: даем жа мы ўсё больш, а вынік усё меншы. Вучыць лягчэй, чым выхоўваць. Да таго ж нярэдка адукаванасць не адэкватна культуры...

Як зрабіць настаўніцкае "трэба" вучнёўскім "хачу"? Як зрабіць, каб на кожным уроку адбывалася фарміраванне чалавека? На маю думку, сёння ўжо кожны педагог шчыра адкажа, чаго мы хочам: толькі даць веды ці сфарміраваць асобу? Недапушчальна існаванне прынцыпу "запішы і вывучы". Вучань не павінен толькі назапашваць веды. Ён павінен быць перш за ўсё добрым, выхаваным чалавекам, і пра гэта трэба пастаянна нагадваць (натуральна, у адпаведных сітуацыях і выкарыстоўваючы ўсе магчымасці ўрока). Канчатковая мэта — не пяцёрка для Вані, Пеці ці Жэні, а сам Ваня, Пеця і Жэня. Нельга выхаванне аддзяляць ад ведаў.

...Добра прачытаў верш, з высокім узроўнем патрыятызму напісаў сачыненне, ветлівы, ціхенька сядзіць за партай — і малайчына! Мы задаволены! А потым здзіўляемся: адкуль гэтыя двайнікі! Выдатнік вучобы аказваецца раптам злачынцам. Як такое магло здарыцца? Ды так і здарылася, бо мы ж не ведалі, што адбывалася ў ягонай душы. Клапаціліся пра іншае, а мышцы духу аказаліся слабымі. Таму што педагагічны працэс быў накіраваны на тое, каб даць веды, развіць уменні і навыкі, а не на выхаванне свабоднай асобы. Маўляў, галоўнае — засваенне праграмы, а не развіццё мыслення вучня. Вось і збіраем плады, забыўшы пра гуманізацыю адукацыі, пра тое, што ачалавечваць трэба было кожнае імгненне ўзаемін з дзецьмі. Нельга аддзяляць веды ад выхавання.

Крэда настаўніка — у кожным дзіцяці ўбачыць добрае ды весці навучанне і выхаванне, засноўваючыся на гэтым добрым.

Мы працуем, не шкадуючы сябе. Але як бы там ні было, калі ты Настаўнік, уваходзь у клас, радуючыся вучням. У нас ёсць настаўніцкае сумленне, таму мы, настаўнікі, не павінны стаць прафесійнымі дэспатамі, якія маральна калечаць дзяцей. Барані Божа, каб школа ці ПТВ былі адным з самых вялікіх расчараванняў у жыцці нашых дзяцей.

ПТВ часам параўноўваюць з "камерай захоўвання" падлеткаў. Я б параўнала яго з Траццякоўскай галерэяй, па якой гуртам цягнуцца трыццаць чалавек на чале з экскурсаводам. Хто бліжэй да экскурсавода, той ухапіў дробныя факты; астатнія ж абыякава глядзяць і свавольнічаюць. Калі працягваць параўнанне, дык я — за "музей адной карціны" і глыбокае яе спасціжэнне кожным Вучнем з дапамогай сапраўднага Настаўніка.

**Таццяна БІРУКОВА, выкладчыца гомельскага ПТВ № 67.**

Канферэнцыі

## Каманда аднадумцаў

### Пра форум вучоных вышэйшай школы ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі

***Вось ужо больш за паўстагоддзе асноўным навуковым форумам, што праводзіцца ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, з'яўляецца навукова-тэхнічная канферэнцыя яе прафесараў, выкладчыкаў, навуковых супрацоўнікаў і аспірантаў — канферэнцыя практычна універсальнай тэматыкі, якая прываблівае да сябе ў апошнія гады па тысячы (і значна больш) удзельнікаў. Шэсць гадоў назад гэтая канферэнцыя стала міжнароднай, і, акрамя навукоўцаў і спецыялістаў з Беларусі, у ёй удзельнічаюць дакладчыкі з Расіі, Германіі, Польшчы, Славакіі, Літвы, Украіны, Чэхіі і іншых краін.***

Ставячы сваёй задачай не толькі падвядзенне вынікаў навуковай дзейнасці, абмен вопытам, прапаганду навукова-тэхнічных дасягненняў, але і далейшае ўдасканаленне метадаў навуковых даследаванняў і выкладання, эфектыўных форм сувязі з вытворчасцю і вучэбным працэсам, канферэнцыя, натуральна, прыцягвае ўвагу інжынерна-тэхнічных работнікаў многіх прадпрыемстваў Беларусі і блізкага замежжа. Прадстаўнікі канцэрна "Белэнерга", ВА "Беларусьнафта" і "Белгеалогія", Мінскіх аўтамабільнага і трактарнага заводаў і многіх іншых прадпрыемстваў у апошнія гады з'яўляюцца рэгулярнымі ўдзельнікамі нашай канферэнцыі. Яе арганізатары перакананы ў тым, што практыкі патрэбны нашым вучоным для прытоку свежых ідэй і вызначэння задач, вырашаючы якія навука вышэйшай школы (і беларуская навука ўвогуле) зробіцца больш карыснай вытворчасці, эканоміцы, грамадству. "Парушальнікамі акадэмічнага спакою" служаць і студэнты-дакладчыкі, якім шлях на канферэнцыю не закрыты таксама.

Пра маштабнасць і шматпрофільнасць канферэнцыі сведчыць і вялікая колькасць тэматычных секцый. Акрамя фізікаў і матэматыкаў, спецыялістаў у галіне машынабудавання, прыборабудавання і транспарту, металургаў і інфарматыкаў, будаўнікоў і архітэктараў, на канферэнцыі маюць магчымасць абмеркаваць свае праблемы спецыялісты ў галіне інжынернай адукацыі, эканомікі і менеджменту, мовазнаўства і сацыяльна-палітычных навук. Таксама рэгулярна (хоць і не на кожнай канферэнцыі) арганізуюцца тэматычныя секцыі па фізічным выхаванні, бібліятэказнаўстве, іншых дысцыплінах. У мэтах больш хуткага і эфектыўнага пераходу ад шматдысцыплінарнасці да міждысцыплінарнасці (а менавіта на перасячэнні навуковых дысцыплін узнікаюць найбольш прагрэсіўныя ідэі і рашэнні!) пры арганізацыі апошняй (2000 г.), 54-й канферэнцыі "Уклад навукі вышэйшай школы ў развіццё прыярытэтных напрамкаў вытворча-гаспадарчай дзейнасці, распрацоўку эканамічных і экалагічна чыстых тэхналогій і прагрэсіўных метадаў навучання" было створана пяць міждысцыплінарных секцый, якія адпавядаюць сусветным навуковым прыярытэтам.

Наогул арганізатары канферэнцыі імкнуцца чуйна рэагаваць на змяненне навуковых прыярытэтаў і адлюстроўваць іх у сваёй тэматычнай структуры. Але такая мабільнасць зусім не шкодзіць добрым традыцыям канферэнцыі. Сярод яе ўдзельнікаў няма "вучоных" і "практыкаў" — ёсць каманда аднадумцаў, якая пастаянна "рэкрутуе" новых сяброў.

Імкнучыся да пашырэння геаграфіі прадстаўніцтва ўдзельнікаў, да прыцягнення большай колькасці канцэптуальных дакладаў навуковых "зорак першай велічыні", арганізатары апошняй канферэнцыі правродзілі яе таксама пад дэвізам "Эканомія, экалогія, прагрэс!"; ускладнілі патрабаванні да рэцэнзавання і распрацавалі фармулёўку місіі канферэнцыі (асаблівы дакумент, які атрымаў найбольшае распаўсюджанне ў ЗША, Канадзе і Вялікабрытаніі, адлюстроўвае стратэгічныя задачы канкрэтнай сістэмы, кансалідуе супрацоўнікаў і стымулюе іх творчую працу, усяляе гонар і упэўненасць, фармуе станоўчую грамадскую думку). У фармулёўцы місіі, выдадзенай у праграме канферэнцыі, запісана, у прыватнасці, што яе звышзадачай з'яўляецца не проста абмен вопытам, прапаганда навукова-тэхнічных дасягненняў, далейшае развіццё метадаў навуковых даследаванняў і выкладання, эфектыўных форм сувязі навукі з вытворчасцю і вучэбным працэсам, але названае — аснова для "кансалідацыі лепшых навуковых, педагагічных і вытворчых сіл краіны ў адзіную каманду для вырашэння галоўных гаспадарчых задач Беларусі на аснове рэальных дасягненняў навуковага прагрэсу". Стварэнне ж такой каманды — гэта рэальнае "садзейнічанне інтэграцыі беларускай навукі і тэхналогій у сусветнае навукова-тэхнічнае супольніцтва дзеля годнага жыцця грамадзян нашай краіны".

Такія "дзёрзкія" задумы патрабуюць, зразумела, далейшага ўдасканалення. У гэтай сувязі кіраўніцтвам Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі і яе навукова-даследчым сектарам прынята рашэнне аб правядзенні ў лютым 2002 года Міжнароднай навукова-тэхнічнай канферэнцыі "Патэнцыял навукі — развіццю прамысловасці, эканомікі, культуры асобы" пад дэвізам "Новы час — новыя рашэнні", у рамках якой адбудзецца і 55-я навукова-тэхнічная канферэнцыя прафесараў, выкладчыкаў, навуковых супрацоўнікаў і аспірантаў БДПА. Створаны — акрамя арганізацыйнага камітэта на чале з рэктарам БДПА Б.М.Хрусталёвым — праграмны камітэт канферэнцыі, які закліканы павысіць якасць адбору і размеркавання матэрыялаў. Акрамя тэзісаў дакладаў, плануецца выдаць выбраныя творы канферэнцыі. Будзе захавана тэндэнцыя да развіцця міждысцыплінарнага падыходу за кошт скарачэння колькасці вузкатэматычных секцый (зразумела, не на шкоду шырыні тэматыкі). Увогуле ж, работа абноўленай канферэнцыі будзе наладжана па наступных накірунках: машынабудаванне, будаўніцтва і архітэктура, энергетыка, металургія, прыборабудаванне і інфарматыка, транспарт, прыродазнаўчыя і дакладныя навукі, гуманітарныя і сацыялагічныя навукі. Многія вядучыя спецыялісты Беларусі ўжо атрымалі імянныя запрашэнні, узяць удзел у гэтай канферэнцыі. Даведкі аб яе правядзенні можна атрымаць па тэлефоне (017) 2320139.

**Уладзімір ЛАЗАРАЎ, загадчык патэнтна-інфармацыйнага аддзела навукова-даследчага сектара Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі;**
**Ларыса ЛЯШЭНКА, інжынер патэнтна-інфармацыйнага аддзела Навукова-даследчай часткі БДПА.**

Абітурыент–2001

## У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце з'явіўся новы факультэт

***Настала гарачая пара для абітурыентаў. Прыёмныя камісіі вышэйшых навучальных устаноў краіны даўно пачалі сваю працу. Кіпіць работа і ў прыёмнай камісіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка.***

Сёлета ў гэтай навучальнай установе ідзе прыём абітурыентаў на дзённае аддзяленне па сарака шасці спецыяльнасцях. Але ў параўнанні з мінулым годам план набору на дзённую форму навучання зменшыўся і складае 1370 чалавек. Як паведаміў старшыня прыёмнай камісіі, прарэктар па вучэбнай рабоце П.І.Кібалка, ва універсітэце адкрыты дзве новыя спецыяльнасці: "Музыка і спевы і практычная псіхалогія", "Музыка і спевы і музычнае выканальніцтва (спецыяльныя музычныя дысцыпліны)". Чакаецца, што на гэтыя спецыяльнасці прыйдуць людзі, якія даволі прафесійна валодаюць музычнымі інструментамі. Да таго ж з'явіўся новы факультэт — медыцынскі. Спачатку ён будзе рыхтаваць медыцынскіх сясцёр з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, а ў перспектыве мяркуецца адкрыць спецыяльнасць "Медыцынская справа" з дадатковай спецыяльнасцю "Спецыяльныя медыцынскія дысцыпліны". У рэспубліцы ні адна ВНУ не рыхтуе выкладчыкаў для медыцынскіх вучылішчаў. Універсітэт жа мае кафедру асноў медыцынскіх ведаў, укамплектаваную дактарамі і кандыдатамі навук, таму магчымасць падрыхтоўкі прафесійных выкладчыцкіх кадраў у гэтай галіне ў нас ёсць.

У правілах прыёму ў БДПУ з'явіўся шэраг новаўвядзенняў, якія пракаменціраваў П.І.Кібалка:

— Калі гаварыць пра новаўвядзенні на дзённай форме навучання, дык першае — гэта дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў абітурыентаў. Магчыма, спяшаемся, бо школ, якія працуюць па дзесяцібальнай сістэме, у нас не шмат. Таму мы вельмі асцярожна падышлі да гэтага пытання. Распрацавалі крытэрыі адзнак, дзе ўлічылі пераемнасць са школьнай сістэмай адзнак. Але тут атрымліваецца цікавая рэч. Калі браць школьную сістэму, дык там адзін і два балы — пераводныя, хоць, паводле крытэрыяў гэтай сістэмы, адзін бал азначае, што чалавек ведае, на які прадмет прыйшоў, два балы — штосьці зрабіў, але не разумее, што. Каб не траўміраваць душу дзіцяці, гэтыя адзнакі зрабілі станоўчымі і пераводнымі. Тэарэтычна атрымліваецца, што школьнік можа закончыць вывучэнне ўсіх прадметаў з адным балам і атрымаць атэстат сталасці. Гэта, на мой погляд, не вельмі правільна, таму мы, па ўзгадненні з Міністэрствам адукацыі, станоўчымі баламі вырашылі лічыць тры і вышэй. Паўстае пытанне з балам "дзесяць". У школе ён ставіцца толькі ў тым выпадку, калі вучань працуе на творчым узроўні. Мы пайшлі па гэтым шляху і захавалі бал 10, калі абітурыент, акрамя таго, што праграму ведае вельмі добра, яшчэ выкарыстоўвае і нестандартныя прыёмы. Такім чынам, 10 балаў атрымаюць, як правіла, тыя, хто стаў пераможцамі абласных і рэспубліканскіх алімпіяд, а таксама універсітэцкай алімпіяды, што праводзіцца на фізічным і матэматычным факультэтах. Дзесяцібальная сістэма пакуль толькі ўводзіцца на гэтых факультэтах, а таксама на факультэце рускай філалогіі. Тут эксперымент будзе весціся далей, і таму студэнты будуць вучыцца па гэтай сістэме.

Яшчэ адно новаўвядзенне прадэкларавана правіламі прыёму ў ВНУ. Яно заключаецца ў паступовым увядзенні замежнай мовы. Але тут, па-мойму, мы зрабілі хутчэй крок назад, чым наперад. Напрыклад, на гістарычным факультэце на ўсіх спецыяльнасцях у нас уключана замежная мова. Калі абітурыент хоча паступіць туды, то, адпаведна, мову ён павінен ведаць. Цяпер умова ставіцца наступным чынам: калі абітурыент закончыў сельскую школу і вырашыў паступаць на спецыяльнасць, дзе трэба здаваць замежную мову, то экзамен па замежнай мове замяняецца экзаменам па беларускай або рускай мовах, а сачыненне (калі выбрана, напрыклад, беларуская мова) пішацца на рускай. Узнікае пытанне: гэта крок наперад ці крок назад?

Ёсць пытанні і з мэтавымі накіраваннямі. Раней іх давалі выпускнікам сельскай мясцовасці, цяпер — выпускнікам тых населеных пунктаў, дзе не вядзецца падрыхтоўка па гэтай спецыяльнасці. Напрыклад, спецыяльнасць "Праца і творчасць" можна набыць толькі ў Мазыры, мінчанін тэарэтычна можа атрымаць накіраванне і паехаць вучыцца ў Мазыр.

Да гэтага года мэтавыя накіраванні маглі атрымаць толькі тыя выпускнікі, у атэстаце якіх былі адзнакі "чатыры" і "пяць". Цяпер жа ад гэтага адмовіліся; можна мець і тройкі, але не па конкурснай дысцыпліне.

Сёлета прымаем шмат асоб на скарочаны тэрмін навучання, напрыклад, на спецыяльнасць "Педагогіка і методыка пачатковага вывучэння выяўленчага мастацтва". Абітурыенты, якія скончылі вучылішчы па гэтай спецыяльнасці, адразу могуць паступаць на скарочаны тэрмін навучання (3 гады). Але гэта могуць рабіць толькі выпускнікі тых вучылішчаў, з якімі педагагічны універсітэт мае дамоўленасць і агульныя планы навучання.

На сённяшні дзень склаліся неадназначныя адносіны да педагагічных класаў і падрыхтоўчага аддзялення. Некалі ВНУ пайшлі шукаць свайго абітурыента ў масы. Так зрабіў і педагагічны універсітэт, арганізаваўшы ў сябе педагагічныя класы. У іх кожны год займалася каля 500 чалавек: дзеці спачатку здавалі ўступныя экзамены ў такі клас, потым праходзілі адбор на факультэт даінстытуцкай падрыхтоўкі, вучыліся па вельмі напружанай праграме і здавалі там экзамены. У канцы ім дазвалялася здаваць сумешчаныя экзамены (выпускныя + уступныя). У гэтым жа годзе сумешчаныя экзамены дазволілі толькі тым, хто закончыў педагагічны клас у сельскай мясцовасці. Мы губляем свайго абітурыента, бо аб'яўлены набор у розныя ВНУ адначасова, дзеці бегаюць тудысюды, страчваюць сваю ўжо набытую накіраванасць.

Уступныя экзамены ў педуніверсітэце будуць праводзіцца ў тэрміны, вызначаныя Мінадукацыі. Ёсць пісьмовыя экзамены (сачыненне, дыктант) і экзамены ў пісьмовым выглядзе (вусны экзамен, але адказ выкладзены на паперы). Пры напісанні сачыненняў абітурыент мае права выбару мовы. Дыктоўкі пішуць толькі тыя абітурыенты, якія паступаюць на факультэты беларускай, рускай філалогіі або на спецыяльнасць "Геаграфія і беларуская мова і літаратура".

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Лета–2001

## Нясвіж чакае вас, вандроўнікі

***Пры Нацыянальным гісторыка-культурным запаведніку "Нясвіж" створана і дзейнічае экскурсійнае бюро. Пра яго работу — наша размова з экскурсаводам С.У.Чысцяковым.***

**— Сяргей Уладзіміравіч, наш старажытны горад і раней вабіў аматараў даўніны. Цяпер жа ён уключаны ў турыстычны маршрут...**

— Так, ён стаў апошнім звяном на маршруце Тураў — Навагрудак — Мір — Нясвіж. Нядаўна ў яго ўключылі і вёску Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна (радзіма Я.Коласа).

Прыязджаюць да нас палюбавацца старажытнымі помнікамі архітэктуры, культуры і гісторыі людзі з розных куткоў СНД. Мы сустракалі дэлегацыі з Бранска, Смаленска, а таксама з Польшчы, Германіі, Аўстрыі. Пабывалі ў нас і нашчадкі роду Радзівілаў.

Найбольшы наплыў турыстаў — вясной і летам. Асабліва шмат педагогаў, школьнікаў і студэнтаў. Нагрузка на экскурсаводаў ўзрастае ў выхадныя і святочныя дні, калі ў Нясвіж прыбывае 35-40 аўтобусаў.

**— І што найбольш цікавіць турыстаў?**

— Вядома ж, гістарычнае мінулае. Нясвіж — адзін са старэйшых культурных цэнтраў Беларусі. Тут у 1562 годзе выдатным дзеячам культуры, асветнікам і гуманістам Сымонам Будным былі выдадзены першыя на тэрыторыі Беларусі друкаваныя беларускія кнігі "Катэхізіс" і "Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам". А праз год у нашым горадзе кнігавыдаўцом Мацеем Кавячынскім і друкаром Даніэлем Лянчыцкім быў выдадзены "Канцыянал" — адзін з першых на Беларусі нотных зборнікаў. Ён змяшчаў больш за сто песень (кантатаў) з прыкладзенымі да іх нотамі. У другой палове XVIII стагоддзя ў Нясвіжы была пабудавана адна з першых у нашай краіне майстэрань па вырабе музычных інструментаў.

Экскурсанты цікавяцца легендамі Нясвіжа, скарбамі, што некалі належалі Радзівілам, тайнымі падземнымі хадамі... Многіх вабіць гісторыя радзівілаўскіх бібліятэк і тэатра.

Але больш за ўсё захапляюць гасцей архітэктурныя помнікі — домік на рынку, заезны дом, фарны касцёл з фрэскамі незвычайнай прыгажосці, Слуцкая брама, гарадская ратуша, замак Радзівілаў, кляштар езуітаў. Гістарычная забудова цэнтральнай часткі горада ўяўляе сабой закончаны архітэктурны ансамбль, які з'яўляецца помнікам дойлідства.

**— Напэўна, госці Нясвіжа хочуць ведаць і аб перспектывах нашага горада, аб адраджэнні аб'ектаў даўніны, рэканструкцыі гістарычных помнікаў?**

— Канешне. Задаюць пытанні, і мы стараемся даць ім поўную інфармацыю. Архітэктурны факультэт Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі і ўпраўленне па архітэктуры і горадабудаўніцтве райвыканкама праявілі ініцыятыву па правядзенні акцыі "Нясвіж-2001". Яна прадугледжвае стварэнне Міжнароднай архітэктурнай майстэрні ў рамках маладзёжнай Еўрапейскай студэнцкай архітэктурнай асацыяцыі. Задача акцыі — зрабіць эскізныя праекты рэканструкцыі цэнтра Нясвіжа. Размова ідзе аб змяненні аблічча Ратушнай плошчы, квартала "Шанхай", стварэнні парку новага тысячагоддзя паміж замкам і стадыёнам.

У нас праводзіцца рэканструкцыя лесапарку "Альба", які займае плошчу 408 гектараў. Тут кожны год працуюць студэнты з ВНУ Мінска, Брэста, Магілёва, Гродна і іншых гарадоў рэспублікі. Робіцца ўсё, каб Нясвіж з цягам часу стаў міжнародным цэнтрам турызму.

**— Турызм у Нясвіжы, наколькі мне вядома, стаў прыбытковай справай?**

— Так. У горадзе — два маршруты экскурсій, разлічаныя на паўтары і тры гадзіны. За наведанне фарнага касцёла і замка — адна плата, за знаёмства з усімі архітэктурнымі помнікамі горада — другая. Ёсць таксама і платная аўтастаянка. Працуюць штодзень кіёск і палатачны ларок, дзе можна набыць неабходную літаратуру, кандытарскія вырабы.

Так што турызм уносіць сваю лепту ў гарадскую казну.

Нясвіж — горад старажытны і малады — чакае вас, вандроўнікі!

**Гутарку вёў Генадзь КРЭСКІЯН.**

## Школа "пад белымі крыламі"

***Нядаўна Шчомысліцкую сярэднюю школу Мінскага раёна наведалі госці з Нарвегіі — настаўнікі і вучні сярэдняй агульнаадукацыйнай школы Нордлі.***

Навіною падзяліўся дырэктар Шчомысліцкай сярэдняй школы Марат Касцяневіч. Ён зазначыў, што асабіста пазнаёміўся з жыхарамі Нордлі падчас гастрольнай паездкі ў складзе універсітэцкага калектыву "Неруш" у гэтую паўночную краіну.

Уражаныя выступленнем нерушаўцаў, яны пажадалі наведаць Беларусь, пазнаёміцца з гэтым спеўным краем. Марат Васільевіч вельмі прыязна аднёсся да прапановы, запрасіў наведаць школу ў Шчомысліцы пад Мінскам.

І вось амаль сорак настаўнікаў і вучняў з нарвежскага горада Нордлі прыехалі на Беларусь.

Марат Васільевіч расказаў, што ўзрушэнню гасцей не было межаў. Так, нарвежцы пазнаёміліся з працамі юных мастакоў, увогуле сістэмай эстэтычнага выхавання ў школе.

Госці з далёкай Нарвегіі былі па-добраму ўсхваляваны, калі даведаліся і ўбачылі, што ў панадворку школы жывуць буслы. А яны, як вядома, абы-дзе не селяцца...

**Наш кар.**

Інтэрв'ю з нагоды

# Хто своечасова не стартуе, той апынецца на абочыне

## Вылічальна-аналітычнаму цэнтру Міністэрства адукацыі нядаўна споўнілася 20 гадоў

*Днямі Галоўнаму інфармацыйна-аналітычнаму цэнтру Міністэрства адукацыі споўнілася 20 гадоў. Гэтая ўстанова ў сістэме адукацыі настолькі часта бывае на слыху, што, ідучы на рэдакцыйнае заданне, я пэўны час наіўна меркавала, быццам усё пра цэнтр ведаю. Але, на радасць, шараговы і не дужа любімы журналістамі збор інфармацыі для юбілейнага артыкула ператварыўся ў цікавую размову — пра навейшыя камп'ютэрныя тэхналогіі, Інтэрнет і перспектывы Беларусі ў інфармацыйным свеце... Ну і, вядома ж, пра цэнтр, які выконвае значна большую работу, чым мы прывыклі заўважаць. Мой суразмоўца — дырэктар Галоўнага інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Міністэрства адукацыі кандыдат тэхнічных навук дацэнт Мікалай Ізмайлавіч Лістапад.*

— Напачатку галоўнымі задачамі цэнтра былі збор і апрацоўка статыстычнай інфармацыі на базе ўкаранення аўтаматызаваных сістэм кіравання. Тады толькі пачынала паступаць камп'ютэрная тэхніка і спатрэбілася прафесійная арганізацыя, якая б магла ўсё гэта каардынаваць.

Праблема, якой мы займаемся дагэтуль, — збор, апрацоўка, прадстаўленне статыстычных матэрыялаў, зборнікаў, статыстычны аналіз усяго таго, што адбываецца ў галіне, пачынаючы ад дзіцячага садка і заканчваючы дактарантурай (у самых розных зрэзах). Але цяпер у нас больш шырокія функцыі, і тую ж статыстычную справаздачнасць мы робім ужо на іншым узроўні. У поўнай меры выкарыстоўваем аўтаматызацыю, чаго не было раней. Вельмі многа інфармацыі прымаем на магнітных носьбітах, па электроннай пошце.

Збор інфармацыі праводзім па розных напрамках дзейнасці сістэмы адукацыі. Імкнемся выявіць нейкія тэндэнцыі, а таксама прагназаваць іх на будучыню. Работа па кожным напрамку заканчваецца, як правіла, тым, што выдаецца адпаведны зборнік.

**— Мікалай Ізмайлавіч, хто карыстаецца плёнам працы цэнтра?**

— Галоўным заказчыкам з'яўляецца Міністэрства адукацыі. У спісе абавязковай рассылкі — Адміністрацыя Прэзідэнта, Савет Міністраў, міністэрствы фінансаў, эканомікі, абсалютна ўсе ВНУ, упраўленні адукацыі аблвыканкамаў. Да нас прыязджаюць многія вучоныя Нацыянальнага інстытута адукацыі, Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі, Акадэміі паслядыпломнай адукацыі і інш. Звяртаецца ў цэнтр нават Міністэрства статыстыкі, бо тут ёсць поўная інфармацыя пра ўсе навучальныя ўстановы краіны незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці.

Два гады таму была ўрадавая задача ацаніць матэрыяльна-тэхнічную базу школ краіны. Быў створаны банк даных, дзе ёсць інфармацыя пра кожную школу — стан будынкаў, працэнт зношанасці, магчымасці далейшага функцыянавання і г.д. Акрамя таго, створаны банкі даных пра будынкі ўсіх ВНУ, ССНУ, ПТВ і пазашкольных устаноў. Гэта значыць ёсць звесткі пра матэрыяльную базу практычна ўсёй сістэмы адукацыі.

Ёсць банкі даных пра кіраўнікоў устаноў галіны (пачынаючы ад загадчыкаў дзіцячых садкоў і заканчваючы рэктарамі ВНУ), пра педагагічныя кадры, што працуюць у чарнобыльскай зоне.

Да нас часта прыходзяць запыты з просьбай знайсці дзіця. І мы дапамагаем, бо ёсць банкі звестак пра дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без бацькоўскай апекі, — іх больш за 25 тысяч. Ёсць банк звестак пра дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, якія маюць патрэбу ў спецыяльнай адукацыі, — іх больш за 125 тысяч. Гэта персаніфікаваныя банкі — з разгорнутай інфармацыяй пра кожнае дзіця. Банк звестак пра дзяцей, што чакаюць усынаўлення, — гэта частка нашага банка.

**— Раскажыце, калі ласка, пра новы напрамак работы цэнтра — Інтэрнет.**

— Гэту работу мы пачалі прыкладна ў 1992 годзе стварэннем камп'ютэрнай сеткі Юнібел (у нашым цэнтры размешчаны яе цэнтральны вузел). Гэта была адна з першых ў краіне сетак, якая аказвала паслугі карыстальнікам па доступе ў Інтэрнет. А сёння Юнібел — самы буйны правайдэр Інтэрнет у Беларусі пасля Белпак.

У нас больш за 200 карыстальнікаў — гэта пераважна ўстановы сістэмы адукацыі і некаторыя іншыя ўстановы сацыяльнай сферы. Нашымі карыстальнікамі з'яўляюцца БДУ, БДПА, БДУІР, БДЭУ, БДТУ, сельскагаспадарчая акадэмія ў Горках і іншыя ВНУ краіны. Што да школ, то каля 50-60 з іх маюць доступ у Інтэрнет — і не толькі сталічныя, але і сельскія.

Інтэрнет — гэта вельмі цікавы напрамак. Мы былі першымі ў краіне, хто пабудаваў высокахуткаснае аптовавалаконнае кальцо ў Мінску, дзе мы выпрабавалі многія новыя тэхналогіі перадачы даных. Атрымалі шэраг грантаў, у тым ліку і камісіі еўрапейскай супольнасці.

Два гады таму выпрабавалі такі від паслуг, як відэаканферэнцыя з Цэнтральнай і Усходняй Еўропай. У кампаніі з Германіяй, Францыяй, Вялікабрытаніяй, Італіяй, Польшчай, Канадай мы спрабавалі працаваць у нашай сетцы. Гэта быў цікавы навуковы праект.

**— Як можна ацаніць забяспечанасць устаноў адукацыі сучаснай камп'ютэрнай тэхнікай?**

— Гэта праблема вельмі актуальная. Камп'ютэр становіцца ўстарэлым на 60 працэнтаў у год, гэта значыць, што праз два гады ён маральна састарэе цалкам. Таму працэс набыцця камп'ютэрнай тэхнікі павінен быць пастаянным.

**Камп'ютэр становіцца ўстарэлым на 60 працэнтаў у год, гэта значыць, што праз два гады ён маральна састарэе цалкам. Таму працэс набыцця камп'ютэрнай тэхнікі павінен быць пастаянным.**

У 1992 годзе было прынята рашэнне набываць камп'ютэрную тэхніку для навучальных устаноў краіны цэнтралізавана, бо аптовыя цэны ніжэйшыя, чым калі купляць камп'ютэры паасобку. А акрамя таго, ёсць небяспека зрабіць памылку ў выбары канфігурацыі, тыпу камп'ютэра і г.д. Цяпер цэнтралізаванае набыццё камп'ютэрнай тэхнікі і праграмнага забеспячэння ажыццяўляе наш цэнтр, дзе працуюць адпаведныя спецыялісты.

Згодна з палажэннем аб'яўляецца тэндэр, у якім бяруць удзел некалькі арганізацый. Па рашэнні Міністэрства адукацыі набытую тэхніку мы перадаём на баланс навучальным установам. Штогод купляем 5-10 камп'ютэрных класаў — гэта каля 100 камп'ютэраў. Вядома ж, мала! Але ВНУ і іншыя навучальныя ўстановы, акрамя гэтага, купляюць тэхніку і самі, за ўласныя сродкі.

**— Ці займаецца Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтр распрацоўкай праграмнага забеспячэння адукацыйнага працэсу?**

— Не, мы толькі каардынуем распрацоўкі, г.зн. выступаем у ролі заказчыка. Шукаем калектывы, здольныя выканаць пэўную работу. Да прыкладу, у БДПА быў распрацаваны вельмі добры пакет па фізіцы, які цяпер выкарыстоўваецца ў нашых школах. Часам мы купляем гатовыя пакеты, напрыклад, у Расіі.

Наш фонд праграмных сродкаў які змяшчае ўсё, што павінна быць сёння ў школе, — усе віды тэхнікі, праграмнае забеспячэнне. Ёсць спіс абавязковага забеспячэння, без якога проста нельга праводзіць урокі інфарматыкі. І калі ў школе нечага не стае, то можна звярнуцца да нас і набыць усё неабходнае.

Што да выкарыстання камп'ютэраў на іншых вучэбных прадметах, то тут ёсць шэраг праблем, звязаных і з загружанасцю камп'ютэрных класаў, і з негатоўнасцю настаўнікаў, і з адсутнасцю адпаведных методык выкладання.

**— Вы праводзіце навучанне настаўнікаў навейшым камп'ютэрным тэхналогіям?**

— Так, але гэта не носіць масавы характар. Звычайна мы праводзім кароткатэрміновыя курсы для метадыстаў абласных ІПК і ўпраўленняў адукацыі, паказваем новыя методыкі, новыя падыходы да таго ці іншага праграмнага сродку, што ўкараняецца ў навучальны працэс.

Інфарматыка — гэта першы прадмет, па якім Беларусь, яшчэ ў складзе СССР, брала ўдзел у міжнародных алімпіядах. І ніводнага разу нашы дзеці не вярталіся без медалёў. Дык вось, да міжнародных алімпіяд яны рыхтуюцца ў нас. Для гэтага мы запрашаем высокапрафесійных выкладчыкаў, пераважна з БДУ.

А наогул кожны настаўнік інфарматыкі, які клапоціцца пра свой прафесіяналізм, ведае наш адрас.

**— Мікалай Ізмайлавіч, вядома, што ваш цэнтр бярэ ўдзел у шматлікіх міжнародных праектах...**

— Так, цэнтр з'яўляецца афіцыйным выканаўцам праекта ўрада рэспублікі і прадстаўніцтва ААН у Беларусі "Інтэрнет", які стаў штуршком да развіцця Інтэрнет для сацыяльнай сферы.

Цікавы навукова-даследчы праект еўрапейскай камісіі "Эксперыменты па глабальным узаемадзеянні нацыянальных хостаў" быў звязаны з распрацоўкай новых камунікацыйных тэхналогій. 25 краін свету ўзялі ў ім удзел.

Зусім нядаўна завяршыўся двухгадовы праект з фірмай Intel, які быў арыентаваны на тое, каб выбраць лепшую навукова-даследчую працу школьніка і накіраваць яго для абароны гэтай працы ў ЗША. Фірма Intel фінансавала праект, а непасрэднай рэалізацыяй яго на Беларусі займаўся наш цэнтр. Зараз трое школьнікаў вярнуліся з Сан-Хасэ і прывезлі прэмію.

Ёсць у нас сумесныя праекты з ЮНЕСКА па інфармацыйных тэхналогіях. Апошні з іх мае на мэце распрацоўку паказчыкаў па выкарыстанні інфармацыйных тэхналогій на прыкладзе краін СНД.

**— Скажыце, Мікалай Ізмайлавіч, якія прагнозы наконт развіцця інфармацыйных тэхналогій у нашай краіне?**

— Альтэрнатывы гэтаму няма. І калі XX стагоддзе прайшло пад дэвізам павышэння прадукцыйнасці фізічнай працы, то новае стагоддзе будзе праходзіць пад дэвізам павышэння прадукцыйнасці разумовай працы. Без новых інфармацыйных тэхналогій сёння ў прынцыпе немагчыма існаваць. І хто своечасова не зразумее гэтага і не стартуе, той апынецца на абочыне.

Гэта добра разумее і кіраўніцтва галіны, і вышэйшае кіраўніцтва краіны. Цяпер у нас рэалізуецца цэлы шэраг адпаведных праграм, і летась упершыню на гэта былі выдзелены неабходныя сродкі.

Вельмі цікавая дзяржаўная праграма НІКС, якая мае на мэце стварэнне навукова-даследчай камп'ютэрнай сеткі для навуковай супольнасці.

Ёсць дзяржаўная праграма стварэння камп'ютэрнай сеткі сістэмы адукацыі Белнет, якая пачала ўжо рэалізоўвацца. Галоўная яе задача — стварэнне інфармацыйных рэсурсаў. У нас вельмі добрая камунікацыйная інфраструктура ўнутры краіны — Белтэлекам і Міністэрства сувязі ў свой час зрабілі многае, і сёння тэлефонная сувязь ёсць у кожнай вёсцы. Такім чынам, камунікацыі існуюць, але іх інфармацыйнага забеспячэння мала.

Калі паглядзець статыстыку зваротаў у Інтэрнет, то карыстальнікі пераважна звяртаюцца туды з мэтай атрымання інфармацыі. І вельмі мала звяртаюцца да нас з другога боку. Гэта адбываецца таму, што ў нас няма інфармацыйных рэсурсаў у дастатковай колькасці. А тыя, што ёсць, не аформлены і не прадстаўлены патрэбным чынам. Таму галоўная наша задача ў межах праграмы — паспрабаваць стварыць гэтыя інфармацыйныя рэсурсы.

Праводзіцца цэлы шэраг мерапрыемстваў, звязаных з рэгістрацыяй інфармацыйных рэсурсаў. Праблемы абароны аўтарскіх правоў, бяспекі інфармацыі, хакерства сёння вельмі актуальныя. Ва ўсім свеце робяцца спробы іх вырашэння. Мы таксама на сваім узроўні спрабуем вырашаць гэтыя і многія іншыя пытанні.

**Гутарыла**
**Галіна СІДАРОВІЧ.**

Партрэт

# Выпрабаванне лёсам

***Я часта бываю ў роднай вёсцы Руднае, што на Капыльшчыне. Сёння тут салдацкіх удоў засталося менш, чым пальцаў на адной руцэ, менш нават, чым удзельнікаў вайны. А ў пасляваенныя гады ўся вёска, увесь калгас трымаліся ў асноўным на іх, на тых, хто чакаў, але не дачакаўся сваіх мужоў з вайны. Канешне, трэба было б расказаць аб кожнай з удоў, усе яны заслужылі гэтага, але размову буду весці пра адну, якую ведаю больш за іншых. Гэта — настаўніца, мая суседка Галіна Анісімаўна Падлужная.***

ЛЁС Галіны Анісімаўны склаўся так, што калі б гора, якое перажыла яна, падзяліці на дзесяцярых, то кожнаму б хапіла спаўна.

У 1917 годзе ў сям'і вясковага сталяра Анісія Фёдаравіча і Марыі Лук'янаўны Паклонскіх нарадзілася дачка. Акрамя яе ў сям'і падрасталі ўжо шасцёра дзяцей. З дзяцінства Галіна з лішкам пазнала жыццёвыя складанасці і смак хлеба праз працу. Але характар дзяўчынкі аказаўся настойлівым, упартым, што дапамагло ёй пераадолець многае і дамагчыся поспехаў.

Пасля заканчэння сямі класаў мясцовай школы (у трыццатыя гады гэта было не частай з'явай) Галіна паступіла на курсы настаўнікаў у Мінску. Скончыўшы іх, паехала па размеркаванні ў Бягомльскі раён. Больш за пяць гадоў працавала настаўнікам малодшых класаў Недальскай сярэдняй школы.

Склалася так, што некалькі разоў давялося мяняць месца жыхарства і працы. Мужа пераводзяць дырэктарам у Слабадскую сярэднюю школу, потым у Савіцкую, Дзягцянскую сярэднія школы Капыльскага раёна. У 1940 годзе пасля праходжання армейскіх курсаў Рыгор Падлужны вярнуўся з арміі малодшым лейтэнантам, працягваючы працаваць на пасадзе дырэктара Дзягцянскай сярэдняй школы. Галіна працавала з мужам у гэтай жа школе. Жылі ў яе бацькоў у Рудным.

Жыць бы ў радасці, расціць сына свайго, вучыць і выхоўваць дзяцей. Але грымнула вайна...

Аб яе пачатку Галіна даведалася ад мужа, які зайшоў да яе на ўрок. Яму паведамілі з сельсавета.

На другі дзень вайны, 23 чэрвеня, яна правяла роднага і блізкага чалавека ў канец вёскі. І больш яго не бачыла, не атрымлівала ад мужа ніякіх звестак. "Вайна забрала яго раз і назаўсёды, — гаворыць у слязах Галіна Анісімаўна. — Засталася з двухгадовым сынам. Потым нарадзіўся яшчэ адзін. Толькі шэсць гадоў пражыла з мужам, і вось ужо шэсцьдзесят — без яго, удавой. Доўгія гады чакала звестак і спадзявалася. Зараз ужо і не чакаю. Дзіва не адбудзецца. Тыя шэсць гадоў сумеснага шчаслівага жыцця прайшлі як шэсць дзён. Сёння ў памяці — кожнае імгненне тых момантаў, як і апошнія развітальныя за ваколіцай вёскі".

Прызнацца, расказы Анісімаўны (так клічуць Галіну Анісімаўну аднавяскоўцы) засмучалі і мяне: у самога вочы сталі вільготнымі, зашчымела ў грудзях...

Жыла з бацькамі, расціла двух сыноў. Працавала ў Руднянскай школе. Аднастайна дзень за днём працякалі цяжкія будні ўдавы, вясковай настаўніцы. Пасля таго як фашысты спалілі вёску, жылі ў зямлянцы. Потым пабудавалі хату, але жыць стала яшчэ цяжэй, калі адзін за адным пайшлі з жыцця бацькі. Праца па гаспадарцы займала ўвесь дзень. На праверку вучнёўскіх сшыткаў і хатніх заданняў заставаліся ночы. Любіла сваю работу, якой аддала больш як 40 гадоў. У летнія месяцы хадзіла на працу ў калгас, гадавала сыноў. Траціла на іх свае мізэрныя зберажэнні.

Аднак Галіну Анісімаўну не зламаў лёс ні фізічна, ні маральна менавіта тады, калі згарэла хата. Новую будавала адна са сваімі сынамі. На хату пайшлі ўсе сродкі.

Хутка старэйшы, Арнольд, вывучыўся на экскаватаршчыка. На паступленне ў інстытут і вучобу ў сям'і не было сродкаў. Працаваць і жыць стаў у Мінску. Праз некаторы час прыехаў у госці да маці ўжо з сям'ёй. Бабулька радавалася ўнукам.

Анісімаўна жыла ў новай цаглянай хаце з малодшым сынам Уладзімірам, які працаваў у калгасе механізатарам. Здаецца, жыццё пачало паляпшацца.

Але ж не! Лёс-ліхадзей нанёс свой чарговы ўдар. У 1998 годзе нечакана памёр старэйшы сын Арнольд. Думала, не выжыве, не перанясе.

Сэрца маці разрывалася ад гора, яна страчвала прытомнасць. А праз два тыдні пасля пахавання старэйшага таксама нечакана памёр малодшы сын Уладзімір.

Сёння Анісімаўна жыве адна. Здароўе 84-гадовую жанчыну, канешне, падводзіць. Але яна трымаецца, змагаецца з хваробамі. Заспеў я яе на агародзе за праполкай буракоў. Адразу паскардзілася, што дрэнна бачыць.

Апрацоўваць агарод дапамагаюць нявестка Ніна і ўнукі, якія прыязджаюць з Мінска. Канешне, ёй хацелася б, каб яны прыязджалі часцей.

Глядзеў на Анісімаўну, слухаў яе расказ аб перажытым і думаў: "Як гэта жанчына вытрымала столькі нягодаў! Колькі ж трэба моцы, каб пераадолець, выжыць, не зламацца?!"

На долю многіх удоў выпала нямала гора. І большасць з іх не здаліся. Іх загартавала жыццё. Менавіта на такіх людзях і трымаецца наша дзяржава, асабліва ў цяжкія гады.

Гэтая жанчына — чалавек цяжкага лёсу. Яна вытрымала ўсе выпрабаванні, якія выпалі на яе ўдовіну долю — долю цяжкай нежаночай працы і адзінокіх начных слёз.

Ці паставяць калі-небудзь помнік салдацкай удаве? Усе павінны бачыць — салдацкія ўдовы не забыты, яны ўваскрэслі ў граніце.

**Міхаіл ЛАГУН.**

Лета–2001

# Трынаццаты сезон "Рамонка"

***За вёскай Парубішкі дарога вядзе ў сасновы лес. А направа, дзе пачынаецца гушчар, дрэвы нібыта расступіліся, утварыўшы вялікую паляну. Тут будаўнікі і выбралі месца для міжкалгаснага дзіцячага летніка, які сёлета распачаў ужо свой трынаццаты сезон.***

***Кожнае лета ў "Рамонку" праводзяць свае канікулы (у тры змены) каля паўтысячы хлопчыкаў і дзяўчынак.***

— Падрыхтоўку да прыёму дзетвары ў гэтым годзе мы пачалі ў сакавіку, — тлумачыць старшыня райкама прафсаюза работнікаў аграпрама Антон Галаўня. — Спадзяваліся толькі на свае сілы і магчымасці: на 4-5 чалавек гаспадарчых работнікаў, што знаходзяцца ў штаце летніка. А трэба было пабяліць, падфарбаваць, падрамантаваць жылыя памяшканні, сталоўку, клуб, бытоўкі... І, слава Богу, са сваёй задачай паспяхова справіліся. Завіталі на адкрыццё другой змены. Чысціня, парадак.

— Для першай змены надвор'е было крыху неспрыяльнае, — гаворыць начальнік летніка Лілія Іванаўна Качурка, — здараліся дажджы. Але ж ад гэтага весялосці і добрага настрою ў дзяцей не меншала. Мерапрыемствы, што папярэдне планаваліся, ладзіліся ў клубе, у жылых памяшканнях. Радасць ды смех не пакідалі дзіцячыя твары...

Лілія Іванаўна працуе ў летніку ўжо чацвёрты год. Яна — педагог Радунскай дзіцячай музычнай школы. Валодае дарам умелага арганізатара калектыву. Звычайна запрашае на працу выхавацелямі навучэнцаў Лідскага педагагічнага вучылішча ды педагогаў пачатковых класаў з Воранаўшчыны. Бо Лілія Іванаўна добра разумее: педагагічная моладзь вызначаецца ініцыятывай і творчасцю ў рабоце з падлеткамі. Напрыклад, цяпер у летніку пачынаецца падрыхтоўка да ваенна-спартыўнай гульні "Зарніца".

— Хто з дзяцей у нашым летніку адпачываў, той і на наступны год сюды абавязкова прыязджае. У гэтым я добра ўпэўніўся, — кажа Антон Міхайлавіч. — Вось цяпер, на другую змену, было 300 заяў ад бацькоў. Прыйшлося пераводзіць дзяцей на наступную, трэцюю змену.

І са старшынёй райкама прафсаюза нельга не пагадзіцца — і забаўляльная праграма ў летніку для дзяцей цікавая і змястоўная, і харчаванне адладжанае. Сталоўку яны наведваюць шэсць разоў у дзень. Таматы, агуркі, капуста, іншая гародніна завозіцца з лідскага саўгаса "Тарнова". У дастатку мясных і рыбных вырабаў. І гатуюць навучэнцам повары, якія маюць вышэйшую альбо першую катэгорыю і вопыт работы на такіх жа пасадах у дзіцячых установах.

А за здароўем дзяўчынак і хлопчыкаў уважліва сочыць Ніна Пятроўна Ладыш, вопытны доктар, паважаная жанчына-маці. Мы былі сведкамі (у дзень нашага наведвання), калі дзеці атрымоўвалі вітамін "Крепыш-М".

— Розных медыкаментаў у дастатку, — патлумачыла нам медсястра Ала Якаўлеўна Тарасевіч. — Так што здароўе падлеткаў мы гарантуем.

Толькі ж, здаецца, ад усіх хваробаў тут каштоўней за ўсё — гэты маляўнічы куток, свежае паветра, настоенае на водары лясных раслін і хвояў, а таксама штодзённы вясёлы настрой ды цікавыя сумесныя заняткі.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ,**
**г.п. Воранава.**

НА ЗДЫМКУ: на лінейцы.

**Фота аўтара.**

Скажу добрае слова

# Калектыў, для якога няма дробязяў

***Пра школу ў вёсцы Дзянісавічы Крупскага раёна мы чулі шмат: і тое, што ёй амаль 100 гадоў, і тое, што прайшла яна ўсе вехі нашых педагагічных рэформ, будучы пачатковай, сямігадовай, а з 1957 года — сярэдняй. Чулі, што сёння яе ўзначальвае незвычайная жанчына. Але тое, што мы ўбачылі і з якімі людзьмі сустрэліся, пакінула яшчэ больш прыемнае ўражанне.***

Вось ужо 25 гадоў узначальвае школу Валянціна Фёдараўна Лаўніковіч. Па словах людзей, з якімі яна працуе, яе энергіі можна толькі пазайздросціць. Яна з'яўляецца натхняльніцай і арганізатарам новых пачынанняў не толькі ў жыцці сваёй школы, а і ўвогуле ў вёсцы.

Прыехала Валянціна Фёдараўна сюды пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута, ды так і засталася ў Дзянісавічах.

— Калі мяне накіравалі ў школу ў Дзянісавічы, — расказвае яна, — было адно жаданне: працаваць і жыць для дзяцей. Мяне заўсёды цікавіла сістэма гуманістычнага выхавання. Таму я і стала ініцыятарам стварэння гурткоў "Культура", "Ветлівасць", "Дабрыня", клубаў "Апека" і "Клопат". І я не памылілася. Спачатку настаўнікі, а потым і вучні падтрымалі мае задумкі. Гэта нас зрабіла аднадумцамі і сябрамі, паплечнікамі і адной камандай.

Вось ужо дзесятак гадоў, як у школе няма правапарушэнняў. Пераступаючы парог гэтай вясковай школы, мы адразу адзначылі, што дзеці ветлівыя, добразычлівыя і шчырыя. Як, дарэчы, і настаўнікі. Сёння ў школе працуе 16 настаўнікаў. З іх двое — з вышэйшай катэгорыяй і 14 настаўнікаў маюць першую кваліфікацыйную катэгорыю. Школа працуе над праблемай павышэння якасці ведаў вучняў на аснове гнуткай унутранай дыферэнцыяцыі. 30 гадзін школьнага кампанента адводзяцца на паглыбленае вывучэнне прадметаў, і гэта дае свае вынікі. За апошнія 5 гадоў атрымалі медалі 10 вучняў, штогод паступае ў ВНУ і ССНУ 60 працэнтаў выпускнікоў. У школе ёсць прызёры раённых і абласных алімпіяд, конкурсаў-аглядаў, выстаў.

Адзін з напрамкаў работы педагагічнага калектыву Дзянісавіцкай сярэдняй школы — адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, мовы. У пачатковых класах 14 гадзін школьнага кампанента адведзены на вывучэнне "Асноў моўнай культуры", вывучаецца дызайн, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва.

— Выхаванне пачуцця ўласнай годнасці і нацыянальнай самасвядомасці, патрыятызму — адна з важнейшых задач нашай школы. Гэта не з'яўляецца спадчынным, а набываецца ў працэсе жыцця, — зазначае Т.Ф.Лаўніковіч.

Работа па патрыятычным выхаванні арганізавана ў чатырох накірунках: "Біяграфія маёй краіны", "Мой родны кут, як ты мне мілы", "Побач з бацькамі і дзеці ідуць", "Ніхто не забыты, нішто не забыта". На ўроках беларускай і рускай моў і літаратур прапануюцца тэмы творчых работ: "Вуліца, на якой я жыву", "Мова маіх бацькоў", "Мая Бацькаўшчына" і іншыя. У тэматыку гульняў "Брэйн-рынг", "Поле цудаў", "Што? Дзе? Калі?" уключаюцца пытанні па гісторыі і культуры Міншчыны і Крупшчыны. Мы зацікавіліся, чаму так добра і ўтульна ў сценах школы, як ладзяцца добразычлівыя адносіны паміж настаўнікамі, вучнямі і іх бацькамі.

— А як жа інакш? — адказвае Валянціна Фёдараўна. — У школе працуюць яе былыя вучні. Гэта — настаўніца рускай мовы і літаратуры Алена Валер'еўна Костачка, настаўніцы пачатковых класаў Людміла Мікалаеўна Дзюсенава і Ірына Эдуардаўна Лупека. Яны дапамагаюць падтрымліваць традыцыі школы, перадаюць іх сваім вучням. Нягледзячы на свае эканамічныя цяжкасці, сямейныя праблемы педагогі працуюць над самаўдасканаленнем, выкарыстоўваюць дасягненні педагагічнай навукі на сваіх уроках. Элементы інавацыйных педтэхналогій можна заўважыць на ўроках настаўніцы рускай мовы В.Я.Кузборскай, настаўніцы геаграфіі Л.С.Баранавай, настаўніцы фізікі А.А.Пратасевіч. Практыка паказала, што мы зрабілі правільную стаўку на сплаў інтарэсаў моладзі з вопытам дарослах. Сярэдні ўзрост нашага калектыву — 36 гадоў, — адзначыла В.Ф.Лаўніковіч.

Школа супрацоўнічае з калгасам "Дзянісавічы", мясцовым лясніцтвам. Калгас дапамагае школе ў арганізацыі гарачага харчавання, правядзенні школьных святаў, аказвае транспартныя паслугі, выплачвае стыпендыю выдатнікам вучобы. Вучнёўскі калектыў школы не застаецца ў даўгу — штогод аказвае дапамогу ў сезонных сельскагаспадарчых кампаніях.

— І ўсё ж галоўным для нас, — працягвае дырэктар Дзянісавіцкай школы, — пытанне выхавання фізічна і псіхічна здаровай асобы. Школа сумесна з калгасам і ФАП штогод плануе розныя мерапрыемствы па ўмацаванні здароўя школьнікаў. Гэта і кантроль за станам здароўя, і арганізацыя правільнага, паўнацэннага харчавання, і работа спартыўных гурткоў. Але ўсё гэта мала што дасць, калі не будзе добрай волі.

Пазнаёміўшыся з работай школы, бачыш, як карпатліва, сістэмна, удумліва працуе педкалектыў. Тут няма дробязяў. Выхаванне і адукацыя, вучэбна-матэрыяльная база школы — усё знаходзіцца ў полі зроку Валянціны Фёдараўны і яе каманды. Здаецца, няма пытанняў, на якія дырэктар не мог адказаць. На развітанне мы спыталі ў яе: "Якім будзе дзень заўтрашні для школы?" І у адказ пачулі:

— Будзем развіваць гуманітарна-эстэтычны напрамак. Ёсць жаданне пачаць вывучэнне замежнай мовы з першага класа, марым стварыць школьны музей эстэтыкі і народнага побыту. А ўвогуле імкнемся рыхтаваць вучняў да маральнага выбару. Менавіта ў ім як у фокусе сканцэнтравана ўнутраная сутнасць чалавека, магчымасці яго духу, розуму, волі.

Улічваючы, што асоба найбольш паспяхова выхоўваецца і праяўляецца ў дзейнасці, ёсць неабходнасць у тым, каб перакананні, маральныя ідэалы і вартасці яе знаходзілі ўвасабленне ў канкрэтных добрых справах і высакародных учынках. І таму паводзіны ў школе, у сям'і і па-за ёй, узаемін, міжасобасныя адносіны ў вучнёўскім калектыве, змест і стыль і, што асабліва важна, усе віды дзейнасці павінны быць грамадска значнымі — у гэтым галоўны стрыжань дзейнасці кіраўніка Дзянісаўскай сярэдняй школы Крупскага раёна Валянціны Фёдараўны Лаўніковіч.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**Наталля МАЛЕЦ,**
**супрацоўнікі Мінскага абласнога ІПК**



Ужо зусім мала часу засталося да адкрыцця X — юбілейнага — Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". На галоўнай пляцоўцы ўсіх канцэртных праграм — Летнім амфітэатры — завяршаецца рэканструкцыя. Над грымёрнымі, за сцэнай, надбудаваны яшчэ адзін паверх, дзе размясцілася адкрытае кафэ. Мяняецца частка сядзенняў у амфітэатры, ідзе добраўпарадкаванне тэрыторыі.

НА ЗДЫМКУ: так выглядае сёння галоўная пляцоўка фестывалю "Славянскі базар у Віцебску" — Летні амфітэатр.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Новыя кнігі

# Літаратурныя партрэты Алеся Марціновіча

***"Элегіі забытых дарог" — такую назву мае адна з новых кніг Алеся Марціновіча, якая выйшла сёлета ў выдавецтве "Полымя". У прадмове да яе аўтар гаворыць: "Колькі тых, хто дзякуючы свайму таленту, вялікай творчай энергіі праславіліся пры жыцці, а пасля былі незаслужана забыты!". Напрыклад, не так і шмат мы ведалі пра Яна Вісліцкага, Міхайлу Цішкевіча, Максіма Вашчанку, Іосіфа Копаця, Міхаіла Слёзку, Івана Дабравольскага, Карла Шыльдэра, Івана Гарбачэўскага і пра другіх герояў кнігі "У часе прасветленыя" ("Полымя", 1999 г.) названага аўтара. А гэта ж слава нашай зямлі, яе гонар!***

Асобных выданняў кніг у Алеся Марціновіча набіраецца амаль чвэрць сотні. Сярод іх — "Далучанасць" (1990 г.), "Пад небам вечнасці" (1990 г.), "Хто мы, адкуль мы" ў дзвюх кнігах (1996, 1998 гг.), "Святая Ефрасіння" (1999 г.)... Гэты пералік можна доўжыць. Яны выходзілі ў нашых выдавецтвах "Мастацкая літаратура", "Юнацтва", "Полымя", "Народная асвета", у бібліятэчцы часопіса "Маладосць"...

У ліку першых была кніга "Ля Каменкі бруістай" ("Полымя", 1992 г.) — краязнаўчы аповед пра Капыльшчыну. Аўтар затрымаў увагу чытача не на выкананні пяцігадовых планаў і сацыялістычнага спаборніцтва, не на жывёлагадоўчых фермах з іх працаўнікамі, як гэта было прынята ў той час, а на сівой мінуўшчыне. Чытач адразу прыняў такую літаратуру. І цікавасць да яе не змяншаецца.

Адной з кніг, што выдала "Юнацтва" ў 1996 годзе, аўтар даў назву "Зерне да зерня". Больш за дзесяць год Алесь Марціновіч збіраў зерне да зерня паўзабытыя, а то і зусім забытыя падзеі роднай гісторыі, імёны людзей, "што на небасхіле нацыянальнай культуры ззяюць зоркамі першай велічыні". Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Войшалак, Леў Сапега, Іван Чарскі, Мікалай Судзілоўскі, Якуб Наркевіч-Ёдка, Усевалад Ігнатоўскі, Уладзіслаў Галубок, Міхась Забэйда-Суміцкі — вось далёка не поўны пералік слынных людзей са згаданай кнігі.

Аўтар свае творы пазначае так: гістарычныя нарысы, артыкулы, эсэ, літаратурныя партрэты. Апошнія складаюць ужо шматтомную серыю пра выдатных беларускіх сыноў і дачок. Пра іх аўтар піша вобразна, цікава, змястоўна, стараецца паказаць героя твора на фоне тагачаснага грамадскага ладу.

Алесь Марціновіч не прытрымліваецца храналагічнага прынцыпу ў выкладанні падзей, апісанні жыцця і дзейнасці чалавека, пра якога піша. Стараецца з першых радкоў даць вобразную замалёўку, якая "раскручвае" сюжэт твора.

Вось першыя сказы літаратурнага партрэта: "Ой, ты княжна, ды свабодная..."; "...Ночкі вы, цёмныя, сяброўкі мае адзіныя! Прыходзіце, знікаеце, адна другую змяняеце. Даўно я лік вам страціла, не памятаю, калі ўжо з вамі звыклася, сяброўкамі сваімі лічыць стала", — так у келлі разважае ў адзіноце чарніца-манашка Анастасія, былая княгіня Рагнеда.

Ад кнігі да кнігі Алесь Марціновіч ідзе, нібы па прыступках высокай лесвіцы. Недзе на сярэдзіне гэтых прыступак, а менавіта ў 1996 годзе, за кнігу "Зерне да зерня" ён ўшаноўваецца Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

Нельга сцвярджаць, што сёння лаўрэат перарос сваіх творчых субратоў-крытыкаў і літаратуразнаўцаў. У кожнага з іх свая ніша: адны пішуць манаграфіі, другія — літаратуразнаўчыя працы, трэція займаюцца надзённай работай крытыка. У Алеся Марціновіча — свой творчы палетак, на ім ён працавіты, дбайныаратай.

У нашу літаратуру Алесь Марціновіч прыйшоў са старонак штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", у рэдакцыі якога больш за дзесяць гадоў загадваў аддзелам літаратурнага жыцця. Цяпер ён — першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская думка". Сёння, як і раней, часта ў "ЛіМе" і ў другіх рэспубліканскіх газетах і часопісах знаходзім творы гэтага самабытнага аўтара. Піша ён пра новыя кнігі вядомых пісьменнікаў, не забывае і маладых. Для кожнага знаходзіць шчырыя словы, акрыляе для творчай працы, дае слушныя парады. Не забывае і сваё асноўнае прызванне — пісаць літаратурныя партрэты нашых славутых землякоў.

Трэба прызнаца, нашы крытыкі і літаратуразнаўцы яшчэ не аддалі належнай увагі творам рускамоўных аўтараў, якія жывуць і працуюць у Беларусі.

Алесь Марціновіч у кніжцы "Дарога ў запаветнае" ("Юнацтва", 1992 г.) разглядае творчасць Аляксандра Міронава, Івана Новікава, Віктара Трыхманенкі, а таксама сённяшніх добра вядомых рускамоўных пісьменнікаў Мікалая Чаргінца, Івана Бурсава... Расказваючы пра жыццёвыя і творчыя дарогі і сцяжынкі гэтых аўтараў, ён знаходзіць для кожнага з іх свае, адметныя словы і фарбы.

Нялёгкімі яны аказаліся і для Алеся Марціновіча, калі яму даводзілася ісці да некаторых сваіх твораў, як кажуць, па цаліку. Выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў 1996 годзе надрукавала кнігу "Дзе ж ты, храм праўды?". Такое выданне ў нас было створана ўпершыню. Можна толькі здагадвацца, колькі спатрэбілася аўтару творчых высілкаў, каб напісаць гэтую кнігу — так дасведчана расказаць пра пісьменнікаў беларускага замежжа, даследаваць эміграцкія перыядычныя выданні, калектыўныя зборнікі.

Альбо возьмем зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў "Шляхам праўды" ("Народная асвета", 1994 г.) — выбраныя старонкі беларускай літаратуры ў святле сённяшняга дня, якія, як гаворыцца ў анатацыі да кнігі, "...па розных прычынах са спазненнем прыйшлі да чытача або зусім не выдаваліся". Кніга рэкамендавана Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь як дапаможнік для настаўнікаў. У ёй — нарысы пра вядомых беларускіх пісьменнікаў — М.Багдановіча, Я.Купалу, Я.Коласа, К.Крапіву, З.Бядулю, Ц.Гартнага, П.Броўку, П.Глебку, П.Труса, А.Куляшова, М.Танка, К.Чорнага, П.Панчанку, А.Пысіна, С.Шушкевіча, К.Кірыенку, А.Асіпенку, А.Вялюгіна, А.Астрэйку, А.Русецкага, І.Шамякіна, І.Навуменку, А.Васілевіч...

Ёсць у Алеся Марціновіча дапаможнік і для педагогаў дашкольных устаноў "Святло чароўных ліхтарыкаў" у дзвюх кнігах ("Народная асвета", 1997-1998 гг.). Аўтар дае выбраныя старонкі дзіцячай беларускай літаратуры.

Для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту пісьменнік напісаў у сааўтарстве з Таццянай Мушынскай зборнік апавяданняў і казак "Віця Неслух у краіне мурашоў", якую ў 1995 годзе выдала выдавецтва "Юнацтва".

Летась ў "Юнацтве" з'явілася новая кніжка Алеся Марціновіча для дзяцей — "Златавуст з Турава, альбо Якая яна, старажытная Тураўшчына" — пра Кірыла Тураўскага, царкоўнага дзеяча, асветніка.

Неўзабаве "Юнацтва" парадуе яшчэ адной цікавай кніжкай пісьменніка — "Сімяон, сын Полацка", дзе расказваецца пра беларускага і рускага грамадскага дзеяча і асветніка.

Алесь Марціновіч паведаў нам пра многае, расказаў пра многіх. А чамусьці пра аўтара гэтых цікавых выданняў ведаем мы толькі з невялікіх артыкулаў, якія можна знайсці ў біябібліяграфічным даведніку "Беларускія пісьменнікі" ды ў 10-м томе "Беларускай энцыклапедыі" (2000 г.), дзе гаворыцца: "Марціновіч Аляксандр Андрэевіч (н. 18.8.1940, в.Казловічы Слуцкага р-на Мінскай вобл.), бел. літаратуразнавец, крытык, публіцыст. Скончыў БДУ (1968). Працаваў у раённым друку. З 1972 ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Друкуецца з 1964..." — далей ідзе сухі пералік асобных выданняў, даюцца даты, калі яны выходзілі. Вось, бадай, і ўсё, што можна даведацца пра гэтага таленавітага аўтара.

Даўно ідзе гаворка пра тое, каб заснаваць серыю кніг пра нашых славутых землякоў. Яшчэ раз прыходзіш да такой высновы, прачытаўшы літаратурныя партрэты Алеся Марціновіча.

**Алесь МАХНАЧ,**
**член Саюза пісьменнікаў.**

З настаўніцкага дзённіка

# Варыяцыі на тэму кахання

### Жнівень

Пяшчотна-ласкавы летні дзень. Жанчына сярэдніх год сядзіць на сіняй лаўцы пад старою ліпаю. Яна ціхенька пяшчотна праводзіць рукой па ствале дрэва, задуменна глядзіць удалячынь.

У вачах — сум. Магчыма, каля гэтай ліпы каханы прызначаў ёй спатканні? А можа гэта дрэва — сведка расстання? А можа...

Ну што гадаць, проста прытамілася кабета ды прысела адпачыць.

Жнівень. Сярод густой зялёнай лістоты ўжо часцяком пракідаюцца жоўтыя лісточкі.

### На папялішчы кахання

— Добры дзень, каханы!

— Добры дзень.

Маўчанне.

— Ну што ты маўчыш? Чаму ты зноў маўчыш? Ты забыў мяне, так? Усё забыў... я праўду кажу?

— Ну што табе сказаць, жанчына заўжды мае рацыю.

— Дзякуй!

Кароткія гудкі ў тэлефоннай трубцы. Увесь шлях дахаты з таго клятага тэлеграфа яна даракала сябе, што вось не вытрымала, ізноў патэлефанавала яму. Навошта, навошта было пытацца, і так жа вядома, што ён адкажа...

### Белы танец

— Ну што ты сядзіш, чакаеш літасці ад прыроды? Дзейнічай! Ідзі і запрасі яго! — суседка па пакоі, дама энергічная, сумаваць не дае.

Ох! Як у вір з галавою!

Ну, запрасіла.

Ну, танцуем.

Над санаторыем плыве шчымліва-сумная мелодыя. І што гэта мне здалося, што гэты мужчына падобны на.... Ну, не мае значэння на каго.

Нічколькі не падобны. Чужы чалавек. І няёмка з ім, і размаўляць няма пра што. Хутчэй бы скончыўся гэты белы танец!

Па нейкім сваім капрызе лёс звёў нас на імгненне, вось быццам бы побач, а так далёка — кожны ў сваім вымярэнні.

...Над санаторыем у настальгічным суме плыве шчымліва-тужлівая мелодыя старога танга.

### Праз дваццаць год

Дваццаць год таму Ліна закахалася ў яго без памяці. Ну хіба можа блакітнавокі кучаравы прынц з вышыні свайго росту заўважыць шэрую малечу-худзечу, ды яшчэ ў акулярах, да таго ж сінюю панчоху і векавуху? Ва ўсякім выпадку, яна так думала. Але ж каб ніхто пра гэта не здагадаўся, Ліна ганарліва задзірала нос угору і адмярала крокі, пастукваючы высокімі абцасікамі. Маўляў, не патрэбны нам, вучоным-аспіранткам, нейкія там студэнты-двоечнікі.

...Дваццаць год таму, як і цяпер, у яго была процьма паклонніц. Аднак жа ён марыў аб ганарлівай аспірантачцы, якая ўся цалкам акунулася ў гэтую сваю матэматыку і не заўважала наўкол нікога, тым болей студэнта-двоечніка.

Калі ж праз дваццаць год пры выпадковай сустрэчы яны нечакана расказалі пра гэта адзін аднаму, то штось змяніць у сваім лёсе ўжо не мелі права: сем'і, дзеці. Шкада...

### Рэха юнацтва

— Пачакайце! Ну пачакайце, калі ласка!

Жанчына стомлена пералажыла цяжкую сумку з адной рукі ў другую і пакрочыла далей, не звяртаючы ўвагі на вокліч незнаёмага мужчыны.

— Ды пачакайце ж вы! Я вас усё жыццё кахаю!

— Што? — кабета ад нечаканасці прыпынілася. — Вы мяне з кімсьці пераблыталі.

— Нічога я не пераблытаў! Я ў маладосці прыязджаў у вашу вёску, каб хоць здаля паглядзець на вас. Вы былі такая прыгажуня, што я проста баяўся да вас падысці. Вы і зараз прыгожая. Я ўсё жыццё гляджу на вас. Не ведаю, як сёння асмеліўся падысці.

— Што ж, дзякуй вам на добрым слове. Толькі праводзіць мяне няма патрэбы.

Жанчына павярнулася і пайшла сваёй дарогай. Яна ніяк не магла ўспомніць, сустракаўся ёй гэты мужчына ў маладосці ці не. Але ж на душы пасвятлела ад таго, што нехта памятае, якой прыгожай была яе васемнаццатая вясна. Пахмурныя восеньскія хмары крышачку разышліся, і цёплы сонечны праменьчык на імгненне сагрэў замёрзлую зямлю.

### Звычайная гісторыя

— Часам я кажу табе "Добрай раніцы, каханы!"

— Я заўсёды адчуваю гэта. У мяне ў такі дзень зранку святочны настрой.

— Часцяком увечары я кажу табе: "Спакойнай ночы, каханы!"

— У такія вечары я выходжу на балкон, доўга куру, а потым не магу заснуць.

— Ужо ідзеш?

— Так, на жаль, трэба ісці — справы.

— Калі цябе чакаць?

— Не ведаю, калі змагу вырвацца.

— Я разумею: праца, жонка, дзеці...

— Так, мая каханая, ты ж у мяне разумніца, усё разумееш.

Ведаў бы ён, як гэта цяжка і горка ўсё разумець...

### Поры года

Пачатак сямідзесятых. Гагра. Маладая дзяўчына садзіцца ў таксі. Вадзіцель-грузін паглядзеў на светлыя валасы, на загарэлы твар: "Сядай, чужая радасць! Ты замужам? Не? Ну тады — чужое шчасце". І працягнуў свежую ружу. Вясна...

Сярэдзіна васьмідзесятых. Ялта. Жанчына плыве да буйка. Знянацку, як са дна мора, побач усплывае джыгіт: "Ты такая прыгожая, як гэтая прырода наўкол. Самы росквіт". Спякотнае лета...

Канец дзевяностых. Завіўка, макіяж. Чорны плашч. Ну, хоць яркі шалік на плечы! У старым парку незнаёмец малюе эцюд. Падняў вочы: "Жанчына! Вы яшчэ такая прыгожая! Вы так пасуеце да гэтай ранняй восені!"

М-м-да, вось толькі каб не гэтае "яшчэ"! Нічога, трымайся, сяброўка! Кажуць, зіма таксама бывае прыгожая.

### Восеньскі дождж

Позні вечар. Званок. Дзіўна, навошта ён прыйшоў? Не бачыліся ўжо год пятнаццаць. Усё даўно забыта. Усё прайшло.

...Мужчына і жанчына п'юць каву, гавораць пра дробязі. Яна ўпотай паглядае на гадзіннік — заўтра рана ўставаць. Ну навошта ён прыйшоў? Чаму сядзіць так доўга? Позна ўжо. Даўно ўсё адкрасавала. Адгарэла. Адбалела.

А пастарэў ён, пасівеў. Аднак усё роўна такі прыгожы, такі родны... Досыць! Прыпыніся! У гэтага твайго прыгажуна сямёра на лаўках. Дарэмна ён прыйшоў. Назад у мінулае дарогі няма. Няхай ідзе дахаты. Ну, ідзі ж ты хутчэй! Ідзі-і-і!

Ён устаў, быццам пачуўшы яе думкі. Паглядзеў засмучана і сказаў, як па сэрцы ўдарыў: "Я кожны дзень дзякую Богу за тое, што ён стварыў цябе".

Усё!

Зачыніла дзверы.

Як холадна. Хо-лад-на! Пустэча наўкол. Так тужліва, так безнадзейна плача за вокнамі восеньскі дождж...

**Галіна КАПЕЦКАЯ,**
**настаўніца гімназіі Светлагорска.**

Выставы

# Варажба з фотаапаратам

### У сталічным Доме дружбы праходзіць выстава фотамастака Алега Яравенкі



"Фотаальбом № 1. Нацюрморты. Пейзажы" — так называецца выстава Алега Яравенкі. Адсюль, пэўна, і пачынаецца канцэптуальнасць.

З аднаго боку, выстава — своеасаблівы макет паліграфічнага альбома: вокладка, невялікая анатацыя (Алег Яравенка. Жыве ў Мінску, дзе пазнаёміўся з фотаклубам і сябруе з ім па сённяшні дзень... і г.д.), першая старонка, другая, трэцяя і гэтак — да апошняй. Выстава нават "шнуруецца" як альбом (побач — спружына для мацавання).

З другога боку, фотаальбом — рэч у пэўным сэнсе прыватная, нават інтымная і ў той жа час даступная і адкрытая: тайна засталася дзесь там, паміж вачыма фатографа і аб'ектывам, паміж аб'ектывам і самім аб'ектам, урэшце, у ванначках з толькі што апушчанымі туды лісткамі фотапаперы... А тут, у самім альбоме, — усё відавочна і ўсё зразумела. Зрэшты, калі што і не зразумела — калі ласка, пытайцеся, мастак побач...

Хаця, шчыра кажучы, разгаварыць Алега Яравенку аказалася не надта і проста. Па ягоных жа славах з анатацыі, ён "не любіць шмат гаварыць, асабліва пра відавочнае і зразумелае. Затое відавочнае і зразумелае можа ўбачыць у нечаканым святле. Упэўнены, што фотакамера — гэта жывы орган, які падпарадкоўваецца імпульсам душы. Згодны, што вялікі набытак — быць набожным і задаволеным, бо мы нічога не прынеслі ў свет, зразумела, што мы нічога не можам і вынесці з яго".

І яшчэ, гэтаксама з анатацыі "сам — пра сябе": "Любіць сабак і людзей, але больш прыроду. Бо, як сказаў псалмапеўца, "нябёсы прапаведуюць славу боскую, і пра справы рук ягоных вяшчае неба. Чалавек жа больш вяшчае пра сябе".

Шлях Алега Яравенкі да фотамастацтва прыкметы і паказальны: першае пакліканне да фотасправы — у дзяцінстве і першыя аматарскія здымкі — любімым "фэдзікам" ("няма каму было вучыць і няма дзе было вучыцца"); знаёмства з мінскім фотаклубам і першае прызнанне ў сяброўскіх колах ("нешта атрымалася; сказалі — добра"), вучоба ў Маскоўскім народным універсітэце ("яна нічога мне не дала; даў фотаклуб"); "руцінная", а таму і не асабліва цікавая і тым больш непрыбытковая праца спачатку фатографам на заводзе, а потым у Доме фота...

Тут раблю вялікую паўзу, бо цяпер на чарзе — ажно дзесяць загубленых гадоў няўдалых спроб наладзіць уласны бізнес ("усё папрадаваў, залез у пазыкі, спадзяваўся хутка стаць на ногі, ды за што не браўся, усё правальвалася"). І вось, нарэшце, справа ляснулася канчаткова, дзякуючы чаму і з'явілася магчымасць зазірнуць у аб'ектыў...

Пасля гэткай споведзі мне нават неяк няёмка было задаваць Алегу зусім не патрэбныя, бо само сабой зразумелыя пытанні накшталт: дык што, фотасправа стала для вас своеасаблівым душэўна-маральным паратункам?..

Невядома яшчэ, што цяжэй для чалавека пабочнага, назіральніка: залезці ў душу да творцы або прабрацца на ягоную творчую "кухню"? А можа, гэта адно і тое ж... "Працэс? — крыху здзіўлена перапытвае Алег. — Усё проста. Усё на адчуваннях. Усталяваў камеру, паклаў адзін прадмет, другі, трэці. Прыладзіў люстэрка — і здымаеш. І ніколі не ведаеш, што з гэтага атрымаецца: ці тры яблыкі — з паўтара, ці, насуперак усім законам логікі і сіметрыі адлюстравання, з чатырох — сем бутэлек..."

Падумалася яшчэ, што гэта ж і ў паэзіі тое самае: ніколі не ведаеш, якім будзе верш, пакуль пішаш яго — па натхненні.

...Таямнічае асвятленне, люстэрка, розныя дзіўныя прадметы і засяроджаны твар фотачараўніка... Усё гэта так нагадвае варажбу. Магію. Толькі белую. Бо гэтак лёгка адчуваеш сябе, перагарнуўшы апошнюю старонку "Фотаальбома".

**Мікола ЧЭМЕР.**



Упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкама і педагагічная грамадскасць вобласці выказваюць шчырае спачуванне Георгію Іванавічу Нікановічу, начальніку ўпраўлення, у сувязі з напаткаўшым яго цяжкім горам — заўчаснай смерцю БРАТА Мікалая Іванавіча.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Рэгістрацыйны нумар 197.**

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намесніка галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Мікола ГІЛЕВІЧ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №3873
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 11.7.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.